© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

26 САКАВІКА – 1 КРАСАВІКА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 15000 РУБЛЁЎ

№13 (205)

АДНА ЗЯМЛЯ

## Пянькі «праклюнуліся»



*Вясна ў Маладзечне.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ВІЛЕЙКА

## З кадрамі разабраліся

На былым будынку гарвыканкома вісіць новая шыльда – "Райвыканком". Улада з пасадамі разабралася.

Былы намеснік старшыні гарвыканкома **Васіль Валадкевіч** (было пытанне па яго працаўладкаванні) узначаліў аддзел жыллёва–камунальнай гаспадаркі. Былы кіраўнік справамі райвыканкома **Валянціна Валатовіч** прыняла цэнтр занятасці.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## На ўсякі выпадак

У мінулую пятніцу ў раёне Старога Места адбыўся арганізаваны мясцовай філіяй БНФ "Адраджэнне" і санкцыянаваны ўладамі інфармацыйны пікет, прысвечаны 81–й гадавіне стварэння БНР.

Пасля завяршэння мерапрыемства ў падазрэнні за распаўсюджванне лістовак без выходных дадзеных з біяграфіяй Зянона Пазняка міліцыя на 3 гадзіны затрымала пікетчыкаў. Затым актывістаў БНФ **Алеся Капуцкага і Івана Гайковіча** адпусцілі. Ніякага пакарання ім не прысуджана.

*Алесь ЗЯНОВІЧ.*

МЯДЗЕЛ

## Тэлефануюць у крэдыт

Новую выгоду атрымалі адпачываючыя санаторыя "Нарач". Са сваіх нумароў у крэдыт наўпрост яны могуць патэлефанаваць і па міжгорадзе, і за мяжу.

Звязацца са "светам" можна з 22 гасцінічных нумароў. Аплачваюцца тэлефонныя размовы пры выездзе з санаторыя. Такая ж паслуга яшчэ раней уведзеная ў трох нарачанскіх здраўніцах: "Соснах", "Белай Русі" і турысцкім экскурсійным комплексе "Нарач".

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Сасновы мёд

Аптэкі горада і раёна распачалі прыём ад насельніцтва сасновых і бярозавых пупышак.

Адзін кілаграм сухой сыравіны каштуе 1,5 мільёна рублёў. Аднак, акрамя скарыстання для фітатэрапіі, дасведчаныя людзі з сасновых пупышак вараць сасновы мёд.

*Аддзел інфармацыі.*

Сморгонский РАПС принимает заявки на поставку РОССИЙСКИХ КУЛЬТИВАТОРОВ:
- сплошной обработки почвы (8 наименований)
- окучники для почв, засоренных камнями,
- растениепитатели овощные и картофельные,
- сцепки бороновальные и посевные,
- рыхлители-выравниватели-уплотнители,
- запчасти к почвообрабатывающей технике.

г.Сморгонь, ул. Тракторная, 70а, тел.33002, 33087.
Подлежит обязательной сертификации.

ПАПЯРЭДЖВАЕМ

## На новы час

Служба часу Дзяржстандарту паведаміла, што ў краіне 28 сакавіка ў 2 гадзіны будзе здзейснены пераход на "летні" час: перавядзіце (лепш перад тым, як пойдзеце адпачываць у суботу ўвечары) стрэлкі гадзіннікаў на адну гадзіну наперад.

ПРЫВАТНЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІК возьме НА РЭАЛІЗАЦЫЮ АЎТАЗАПЧАСТКІ (новыя, опт).
ВАЗЬМУ ПАЗЫКУ.
Т. у Маладзечне 99689.

РЕМОНТ МАЗ
ЗАПЧАСТИ
Подлежит обязательной сертификации
- КАПИТАЛЬНЫЙ РЕМОНТ ДВИГАТЕЛЕЙ И ПОДВЕСОК
- РЕМОНТ И РЕГУЛИРОВКА ТОПЛИВНОЙ АППАРАТУРЫ НА СТЕНДЕ
- ГРУЗОПЕРЕВОЗКИ 8–16 тонн

Лиц. АА № 1-3163 с 18.06.97 по 17.06.2002 г. выд. Мин. транспорта и коммуникаций
Т. (017) 263–61–62, 8–029–47–70–485
Адрес: г. Минск, Промышленный пер., 13

СУСТРЭЧЫ

# Беларускія грэкі з'ехаліся ў Маладзечне

***МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак у "чырвонай" зале цэнтральнай гарадской бібліятэкі гучала пераважна грэчаская мова. Беларускае аб'яднанне "Пелапанес" праводзіла канферэнцыю. Наш рэгіён быў прадстаўлены грэкамі з Ашмянаў, Смаргоні, Вілейкі, Маладзечна.***

– У рэспубліцы нас за 600 чалавек, – гаворыць старшыня Савета і ініцыятар гэтай сустрэчы **Рафаэль Дзяльянаў**, – хочам на канферэнцыі пазнаёміць усіх, хто прыехаў. Разам лягчэй захоўваць сваю культуру.

– У Расіі былы мэр Масквы Гаўрыіл Папоў – грэк. У вашым аб'яднанні ёсць людзі, якія займаюць высокія пасады?

– Пошукавую работу праводзім восьмы год. Ніколі не ставілі на мэце адшукаць нейкага высокапастаўленага чыноўніка. Працаваў у Гродзенскім аблвыканкоме Эдуард Карыпідый. Яго дачка Галіна – журналіст на Гродзенскім тэлебачанні. Маладзечанец Алег Тапалаў – дырэктар завода парашковай металургіі.

Сярод прысутных быў удзельнік Другой сусветнай вайны, кадравы ваенны, маладзечанец **Павел Ахпаш**:

– Прозвішча маіх продкаў Паньёта. Дзед быў чалавек вядомы. Часцяком ездзіў у Турцыю. А там мясцовыя яго празвалі ахпаш, што значыць "сівая галава". Гэта яму падабалася, і ён афіцыйна ўзяў сабе такое прозвішча. Я раней марыў пабываць на радзіме – у Афінах. Аднак магчымасці такой не было.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Будучае за моладдзю. Ля століка з літаратурай пра Грэцыю.*



*Павел АХПАШ.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ПАВОДКА

## Вялікай вады не будзе

**МАЛАДЗЕЧНА**. У пачатку тыдня старшыня райвыканкома **Пётр Кулеш** даў загад кіраўніку групы па папярэджанні і ліквідацыі паводкі **Уладзіміру Маркелаву** ўдакладніць нумары дамашніх і службовых тэлефонаў людзей, задзейнічаных у ліквідацыі наступстваў (пры неабходнасці). Пакуль надвор'е (маразы чаргуюцца з адлігай) не дае падставы ўводзіць кругласутачнае дзяжурства. На Маладзечаншчыне крытычных сітуацый не памятаюць. Летась, калі ўзнялася Вілія, падтапіла крыху дачныя ўчасткі. Ды гады 3–4 таму ў адным месцы прарвала плаціну на Васькаўскім вадасховішчы.

**СМАРГОНЬ**. Да эвакуацыі ў раёне не рыхтуюцца. Два гады таму небяспеку выклікала становішча на Рачунскім вадасховішчы, дзе калісьці была гідраэлектрастанцыя. Тады, каб пазбегнуць затаплення бліжэйшых вёсак, умацавалі дамбу, якая была ўзведзеная ў 60–х гадах. Таксама выкапалі канал да возера Рыжае. Цяпер вада з вадасховішча спушчаная, каб правесці рэстаўрацыю электрастанцыі. Там цячэ толькі Ашмянка, з берагоў не выйшла. Па Віліі пытанні таксама не ўзнікаюць. Каб падтапіць вёскі Рудня, Перавозы, вада ў рацэ павінна ўзняцца на 4 метры. А гэта малаверагодна.

**ВІЛЕЙКА**. Скіданне вады на вадасховішчы – каля 70 кубаметраў у секунду. Калі будзе скіданне больш за норму (за 100 м³), узнікне небяспека затаплення вёсак Швяды, Мамаі, Трапалава, дачных участкаў уздоўж Віліі (за ёй ідзе пастаяннае назіранне, арганізаваныя пасты, як, прыкладам, ля вёскі Сцешыцы). Штодзень адсочваецца ўзровень вады на Нарачанцы, Вузлянцы. Моцнага затаплення, тым больш, эвакуацыі насельніцтва, хутчэй за ўсё, не будзе.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

**ВАЛОЖЫН**. Распараджэннем старшыні райвыканкома **Валянціна Малішэўскага** створаная аператыўная група. Узначаліў яе першы намеснік старшыні райвыканкома **Зігмунт Лужынскі**. Мэта групы – каардынаваць усе супрацьпаводкавыя мерапрыемствы. Рэзкага павышэння ўзроўню вады ў Заходняй Бярэзіне, Іслачы, Альшанцы няма. Вялікі фронт папераджальных работ праводзяць ДРБУ–167, прадпрыемства меліярацыйных сістэм.

Самае небяспечнае месца – рэгіён вёскі Сакаўшчына.

*Уладзімір ПАШКЕВІЧ.*

МЯДЗЕЛ. Ёсць асобныя выпадкі падтаплення двароў, падвалаў у горадзе і гарпасёлку Крывічы. Таўшчыня лёду на возеры Нарач яшчэ не пачала змяншацца і на пачатак тыдня складала 49 см. Гэтым і карыстаюцца рыбакі.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ТРАНСПАРТ

## "Ікарусы" і маршрутныя таксі

МАЛАДЗЕЧНА. З мэтай паляпшэння гарадскіх пасажыраперавозак, мясцовыя ўлады па дапамогу звярнуліся да ўладальнікаў мікрааўтобусаў. Намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык** гаворыць, што адпрацоўваюцца розныя варыянты для паляпшэння сітуацыі па пасажыраперавозках.

***Даведка.*** У горадзе 50 маршрутных аўтобусаў. З іх толькі 31 у тэхнічна спраўным стане. У рэйс выходзяць ад 20 да 22 машын. Ёсць "дзядулькі" з 19–гадовым стажам работы.

Маршрутныя таксі на базе мікрааўтобусаў (пераважна, прыватных) працуюць у некаторых гарадах краіны, ёсць досвед. Таму гарвыканком і прапанаваў уладальнікам транспарту распаўсюдзіць яго на Маладзечна.

На аўтобусных прыпынках будзе значыцца графік руху таксі, маршрут (ён можа і не адпавядаць аўтобуснаму).

Колькі б прыпынкаў пасажыр ні ехаў – цана аднолькавая. Першапачатковае пы...нне – кошт праезду. Падчас размовы ў гарвыканкоме вадзіцелі прапанавалі зрабіць яго ад 40 тысяч і вышэй. Аднак, хутчэй за ўсё, ён будзе ў межах 20–30. Як сказаў Я. Ідэльчык: мы гатовыя на гібкасць у пытаннях маршрутных таксі. З кожным канкрэтна абумовім работу.

– Не важна, якога колеру кошка, – галоўнае, каб яна лавіла мышэй, – упэўнены намеснік старшыні гарвыканкома.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Маладзечна, прыпынак «Дзіцячая паліклініка».*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



МЕДЫЦЫНА

# Калі лячыць – дык па–сямейным

ВАЛОЖЫН. Статус урача агульнай практыкі (сямейнага ўрача) пасля адпаведнай вучобы атрымае галоўны ўрач Падбярэзскай урачэбнай амбулаторыі **Іван Рогач.**

А дагэтуль такую практыку ўкараніла галоўны ўрач Гародзькаўскай урачэбнай амбулаторыі **Таццяна Няевіна.**

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# Штодзень па тры разы

МАЛАДЗЕЧНА. На аздараўленча–курортнае лячэнне школы горада атрымалі з абласнога бюджэту 840 мільёнаў рублёў.

На вясенніх канікулах у школах адкрыюцца групы адпачынку для вучняў з 1 па 11 клас. Грошы разлічаныя на 1400 чалавек. Перавага будзе аддавацца дзецям з малазабяспечаных сем'яў. Распрацаваны план па арганізацыі мерапрыемстваў.

Тэхнолаг па дзіцячым харчаванні **Алена Слабыш** гаворыць, што ў дзень на аднаго чалавека выдзелена 100 тысяч рублёў. Харчаванне будзе трохразовае, гарачае.

*Анжаліка АРАБІНКА.*

24 САКАВІКА – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ З ТУБЕРКУЛЁЗАМ

# Хвароба, ад якой не баліць, але ад яе паміраюць



*Аляксандр Яцыновіч за работай.*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

***МАЛАДЗЕЧНА. За 6 апошніх год захворваемасць на туберкулёз узрасла ў паўтара раза. Сёння ў горадзе 35 сухотнікаў, у раёне – 21. Прагнозы несуцяшальныя. Сёлета колькасць хворых узрасце яшчэ за 40 чалавек. У свеце штогод ад туберкулёзу паміраюць 3 мільёны чалавек. Пры хваробе не баліць. Звычайна людзі цягнуць да апошняга. Звяртаюцца, калі лёгкія ўжо разбурыліся. А толькі за 1 год хворы заражае чалавек 15.***

– За тры месяцы года выявілі 10 "новых", – гаворыць загадчык дыспансернага аддзялення Маладзечанскага гартубдыспансера **Аляксандр Яцыновіч**. – Хварэюць, у асноўным, бамжы, алкаголікі. Вызваленыя з турмы таксама даюць рост. Закона аб прымусовым лячэнні няма. Калі яго прымуць, трэба будзе будаваць бальніцу–турму. А гэта сродкі. Таму ўрачы карыстаюцца старымі метадамі – угаворваюць лячыцца.

**– Колькі каштуе поўны курс лячэння?**

– Курс лячэння 10–12 месяцаў. Дзесьці 6–8 месяцаў у стацыянары, потым у санаторыі, дома. Кошт лячэння залежыць ад стадыі хваробы. Напрыклад, пралячыць "хроніка" цягне да 1 тысячы долараў у месяц.

**– Сухоты, у асноўным, разбураюць лёгкія?**

– У чалавека няма органаў, тканак, якія не маглі б пашкоджвацца. Асабліва бацылы любяць органы насычэння крывёю. Таму 90% – гэта туберкулёз лёгкіх.

**– Флюараграма – рэч шкодная?**

– Яна прыраўноўваецца да дня, праведзенага на сонцы. Дарэчы, сабекошт аднаго здымка каля 80 тысяч.

**– Маеце дэфіцыт лекаў?**

– Лекі бясплатныя, добра імі забяспечваемся.

**– Наколькі ведаю, мы ж усе інфіцыраваныя на туберкулёз?**

– Інфекцыя ёсць у арганізме практычна ва ўсіх, каму за 30. Хварэюць жа, у асноўным, тыя, у каго зніжаны імунітэт. Садзейнічаюць узнікненню хваробы дрэннае харчаванне, частыя пераахаладжэнні, розныя хваробы.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ФЕСТЫВАЛІ

# Пакуль "Сакавіца" - для выбраных



***МАЛАДЗЕЧНА. Шосты рэспубліканскі тэатральны фестываль "Маладзечанская сакавіца–99" уклаўся ў тры дні. Удзельнічала 7 тэатральных калектываў. Маладзечанскі глядач зноў апынуўся па–за фестывалем.***



*Ж.-П.Сартр: «Пры зачыненых дзвярах». Акцёры Мінскага абласнога драмтэатра з Маладзечна.*
ФОТА ДЗМІРЫЯ ЗАВЁРТКІНА.

Акцёр Мінскага аблдрамтэатра **Яўген Іўковіч** сказаў, што паказ спектакляў быў больш для журы і крытыкі, чым для мясцовага гледача. Прычыны тыя ж – разавыя паказы твораў і невялікая па колькасці месцаў зала драмтэатра.

У апошні дзень фестывалю ў прэс–цэнтры гаварылі пра сёлетнія "плюсы" і "мінусы".

**Тэатральныя крытыкі**

**Вадзім Салееў**:

– Уражаны, здзіўлены той цеплынёй, з якой вілейскі глядач прымаў спектаклі. Больш нейкіх для сябе адкрыццяў не зрабіў.

**Таццяна Команава**:

– Некаторыя прадстаўленыя калектывы маюць сіндром работнікаў цукровага завода: імкнуцца рабіць цукеркі не з таго, з чаго хацелася б. Іх драматургія нагадвае мумію. Узялі скуру, валасы, шкілет. Пра душу забыліся. Таму і акцёрам няма магчымасці раскрыцца.

**Галіна Алісейчык**:

– У Маладзечне на фестывалі другі раз. Сюды трапляюць спектаклі з яркімі акцёрскімі работамі, аднак пастановачная частка пакідае жадаць лепшага. Можа, гэта абумоўлена і невялікімі памерамі сцэны.

**Вячаслаў Іваноўскі**:

– Відаць, што зрух ідзе ў бок пошуку яркай відовішчнай формы.

**Тэатральныя рэжысёры, работнікі прэсы**

– Лепш ставіць класіку, а не брыдкую драматургію.

– Бог не роўна дзеліць – адныя спектаклі адразу трапляюць у ранг фестывальных, іншым ніяк туды не прабіцца.

– Шмат пісалася, гаварылася пра непрадуманую ідэю фестывалю. Аднак мы не толькі не знайшлі ідэю, але і страцілі сэнс. 4 з 7 спектакляў абкаталі дагэтуль па розных фестывалях. Можа, ёсць сэнс прадстаўляць толькі новае?

– Канцэпцыю фестывалю выпрацоўваюць не рэжысёры. Ёсць людзі, якія гэтым займаюцца і за гэта атрымліваюць вялікія грошы.

**Акцёры аблдрамтэатра**

**Яўген Іўковіч**:

– Фестываль у горадзе – быццам, творчае прывітанне ад Гродзенскага фестывалю, што прайшоў увосень. І там, і тут задзейнічаныя маладыя акцёры. Падабалася, што на сцэне было больш пластычных рашэнняў, чым драматычных. Дрэнна, што акцёры не мелі магчымасці на працягу "сакавіцы" мець стасункі паміж сабою. Адыгралі – і паехалі.

**Барыс Донін:**

– На жаль, фестываль губляе аўтарытэт – не прыязджаюць мэтры. Лічу, што з усіх удзельнікаў толькі мы паказалі сур'ёзны твор. Добра, што геаграфія прадстаўленых калектываў шырокая – Гомель, Віцебск...

Дарэчы, Б. Донін за ролю калідорнага ў фестывальным спектаклі «Пры зачыненых дзвярах» адзначаны аўдыёмагнітафонам «Panasonic» .

**Журы**

– Пастаянна ідуць спрэчкі, ці трэба захаваць журы, прызавую сістэму. І кожны раз пераконваемся – трэба.

Старшыня аргкамітэта, старшыня Маладзечанскага гарвыканкома **Станіслаў Татарыновіч**:

– У шосты раз прымаем фестываль, тым не менш, падзея не радавая.

Напярэдадні С. Татарыновіч адзначаў, што надалей "сакавіца" будзе праводзіцца радзей. Ад гэтага яна выйграе ў якасці і арганізацыі. А праблема наведвання шырокай маладзечанскай публікай будзе знятая з уводам у эксплуатацыю гарадскога Дома культуры.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

# Фестываль уратуе Вілейка

***ВІЛЕЙКА. Нястачу месца ў глядзельнай зале ў Маладзечне, здаецца, кампенсавала Вілейка. Гарадскі Дом культуры быў запоўнены тры фестывальныя дні запар. У адрозненне ад Маладзечна, білеты на спектаклі былі больш даступныя. Горад меншы, месца больш. Лёс «Сакавіцы» быў выратаваны год таму прапановай тагачаснага старшыні гарвыканкома Пятра Юдо падзяліць гэты фестываль паміж двума суседнімі гарадамі. Невядома, ці мела б сэнс надалей праводзіць «Сакавіцу» выключна ў Маладзечне, ператвараючы яго ў тусоўку для выбраных.***

Спектаклі ў Вілейцы розным гледачом успрынятыя па-рознаму. А пастаўлена было тры рэчы: «Улюбёнцы лёсу» А. Папова Дяржаўным рускім акадэмічным драмтэатрам імя Горкага, «Блудны муж і яго жонка Варвара» Г. Марчука Дзяржаўным акадэмічным тэатрам імя Якуба Коласа, «Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча» Нацыянальным акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы.

Але варта было б прыслухацца да думкі, што авангардныя рэчы, або тыя, якія знаходзяцца на мяжы авангарду, не варта везці на фестываль, дзе большасць гледачоў не можа прылічыць сябе да заўзятых тэатралаў. Тым не менш, нягледзячы на сімвалічнае прачытанне многіх сцэн у «Блудным мужы» або «Інтымным тэатры», вілейскі глядач праводзіў акцёраў стоячы.

І яшчэ, здавалася б, дробязь. «Сакавіца» па-ранейшым мае шанц стаць фестывалем нацыянальным і перарасці комплекс местачковасці. І артысты робяць для гэтага шмат. Успомнім хаця б леташні фестываль, калі горкаўцы стварылі прэцэдэнт для рускага тэатра, паставіўшы «Раскіданае гняздо» ў Вілейцы на беларускай мове. Гаспадары ж сёлета віталі артыстаў на сцэне Дома культуры па-руску. На жаль... Давайце не будзем траціць гэты шанц. Фестываль павінен быць нацыянальным не толькі па змесце, значнасці і геаграфіі, але і па форме, якая таксама часта становіцца зместам.

*Мікола ГАЙДУК.*

# Абарвалася жыццё рэжысёра

***«Сакавіца-99» стала апошняй ў жыцці мастацкага кіраўніка мінскага тэатра «Дзе-я?» рэжысёра Мікалая Трухана.***

Рэжысёр памёр у нумары гасцініцы «Маладзечна». Апошняй яго пастаноўкай былі «Мёртвыя душы» на сакавіцкай сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне.

*Аддзел інфармацыі.*

ДАТЫ

# Як у першую, так і ў другую

МЯДЗЕЛ. Прынарачанская вёска Пасынкі зведала жахі дзвюх войнаў XX стагоддзя.

Вёску спалілі, а насельніцтва выселілі ў нямецкі тыл, калі з 1915 па 1918 гады тут ішлі баі Першай сусветнай вайны. На ўсходняй ускраіне Пасынкаў і па сёння захаваліся нямецкія доты з амбразурамі–байніцамі, з якіх ляцелі кулі па салдатах, што наступалі ў сакавіку 1916 года (дзесяцідзённае наступленне рускай арміі на Нарачы ўвайшло ў сусветную ваенную гісторыю пад назвай "Нарачанская наступальная аперацыя").

55 год таму, 27 сакавіка 1944 года, ля Пасынкаў адбыўся бой двух партызанскіх атрадаў з гітлераўцамі, якіх было ўдвая больш. Гітлераўцы з Пастаў праз Кабыльнік дабіраліся ў Мядзел, каб у яго ваколіцы падабраць трупы сваіх салдатаў, забітых тыдзень таму партызанамі. Калону з 8 грузавых машын суправаджалі танкетка і бранявік. З засады, зробленай у акопах Першай сусветнай вайны, партызаны пашкодзілі танкетку, падбілі 2 грузавікі. Бой доўжыўся ажно сем гадзін. Немцы ўварваліся ў Пасынкі, пачалі паліць хаты (з 49 двароў згарэлі 24 ), страляць па сялянах. Было забіта 9 чалавек і паранена 4. Партызаны кінуліся ў атаку і выгналі фашыстаў з населенага пункта. Пра гэты бой у ваколіцах Нарачы паведамлялася ў красавіку 1944 года ў зводцы Савінфармбюро з Масквы. На адной з захопленых аўтамашын партызаны прывозілі трафеі на свае базы ў Нарачанскім лесе.

Фашысты забілі ў той дзень двухгадовую Тоню Скармаховіч на руках у маці, а брату Мішу (шэсць год) перабіла куляй руку, якую потым ампутавалі партызанскія медыкі, бо пачалася гангрэна.

У 55–ю гадавіну той далёкай падзеі ў Пасынках збяруцца і ветэраны, і моладзь, каб успомніць сваіх загінуўшых землякоў. Непадалёку ад вёскі на пагорку ўзведзены абеліск у гонар усіх, хто змагаўся з фашыстамі. Да помнікаў ахвярам вайны будуць ускладзеныя кветкі, вянкі.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

ПЕРАЙМЕНАВАННІ

# Перапісваем гісторыю?

МАЛАДЗЕЧНА. Згодна з інвентаром 1623 года, ў горадзе налічвалася 7 вуліц: Вялікая і Малая Замкавыя, Мінская, Лебедзеўская, Агароднічая, Рынкавая, Цюкомская. У інвентары 1651 года да іх далучылася яшчэ і Хажоўская.

У сярэдзіне XIX стагоддзя ў выніку пажараў захаваліся толькі 4 вуліцы: Мінская, Віленская, Вілейская і Гарадоцкая. Апошняй, мусіць, з–за няведання гісторыі горада, цяпер імкнуцца даць іншую назву - Пушкіна.

*Алесь ЦАДКО.*



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019


РАДЫЁ

# "Радио Би–Эй" з новым тварам, альбо Ці можна пасля Уітні Х'юстан круціць песні Алены Апінай?

*МІНСК. Прыхільнікі FM–станцыі "Радио Би–Эй" па сёння маюць супярэчлівую інфармацыю наконт зменаў, што адбыліся тут апошнім часам. Добрыя песні замежных выканаўцаў замяніла руская "папса", на нанова адкрыты радыёканал "Альфа–радио" масава сышлі лепшыя, бадай, дзі–джэі і іншыя супрацоўнікі.*

Студэнт факультэта журналістыкі БДУ **Алег Лепеншанкоў**, які супрацоўнічае з "Радио Би–Эй", гаворыць, што змены (у прыватнасці, поўны пераход на рускі фармат) суправаджаліся ў ноч на 8–е сакавіка шоў–канцэртам у дыскаклубе "Юла".

Праграмны дырэктар "Радио Би–Эй" **Таццяна Мартынава** ездзіла ў Санкт–Пецярбург, дзе аналізавала работу вядучых расійскіх радыёканалаў. Тады і было прынята рашэнне змяніць імідж станцыі – яна поўнасцю зарыентаваная на рускамоўнага слухача. Таццяна лічыць, што якаснай рускай музыкі ў нас шмат. Адначасова яна сцвярджае, што ў Беларусі якаснага матэрыялу мала.

На думку многіх слухачоў, "цяпер хоць зразумела, пра што спяваюць".

17 чалавек з "Радио Би–Эй" перайшлі на новы канал. Дырэктар праграмы **Сяргей Кузін** на пытанне, чым будзе запоўнены эфір "Альфа–радио", адказаў:

– Галоўны дэвіз радыёстанцыі – "Гук твайго горада". Мы не будзем адрывацца ад зямлі, а хадзіць па ёй і жыць тымі ж праблемамі, што і ўсе. Дарэчы, да нас прыйшлі былыя супрацоўнікі "Радио–Рокс", Эстонскага радыё, будзе супрацоўнічаць славуты **Сева Наўгародцаў**.

Новую станцыю, якая працуе на хвалі 107,9 FM, характарызуюць 85% музыкі і 15% інфармацыйных тэкстаў. Больш падрабязна гаварыць складана – лепш паслухаць і зрабіць свой выбар.

***Надзея ЛІСАВА,***
***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ,***
***аддзел інфармацыі.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 17.03 | 24.03 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 340 | 340 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | – | – |
| Сасіскі | 1 кг | 424 | 451 |
| Селядзец | 1 кг | 285-290 | 270 |
| Рыс | 1 кг | 170 | 180 |
| Цукар | 1 кг | 135 | 140 |
| Грэчка | 1 кг | 140 | 140 |
| Алей | 1 л | ад315 | 320 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 60–80 | 60–80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 370 | 380 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 105 | 105 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 100 | 105 |
| Лімоны | 1кг | 390 | 370 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 130 | 120 |
| Масла | 1 кг | 360 | 360 |
| Тварог | 1 кг | 120 | 140 |
| Малако | 1,5 л | 45 | 45 |
| Бульба | 1 вядро | 300–340 | 320 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 180 | 180 |

# Масла на аматара

ВАЛОЖЫН. З паліц знікла масла "Бутэрброднае", а з'явіўся новы гатунак – масла "Аматарскае" па цане 558 тысяч рублёў за кілаграм. У фірменных крамах танней – 534 тысячы.

Вытворца прадукту – мясцовы масласырзавод. Шакаладнае масла таго самага завода яшчэ таннейшае – 400 тысяч.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

# Каму сантэхніку?

СМАРГОНЬ. Год таму МП па мантажы сантэхсістэм "Саніт" набыло праз аўкцыён непрывабны двухпавярховы стары будынак у цэнтры горада – на скрыжаванні вуліц Савецкай і Гагарына. Цяпер "Саніт" збіраецца пачаць яго рэканструкцыю. Абноўлены будынак папрыгажэе, у ім размесцяцца офіс і магазін па продажы сантэхабсталявання.

***Павел МАКЛЮК.***

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

# Водазабеспячэнне патрабуе грошай

***МАЛАДЗЕЧНА.** Стан водазабеспячэння ў раёне і забеспячэння сельскага насельніцтва якаснай вадой разгледжаны на пасяджэнні Маладзечанскага райвыканкома. Хаця вады на тэрыторыі раёна дастаткова, праблема забеспячэння насельніцтва бяспечнай і якаснай пітной вадой год ад году абвастраецца.*

Летась адабрана з водаправоднай сеткі 1041 проба вады, у 25 выпадках адзначаная неадпаведнасць нарматывам. Даследавана 168 проб вады з шахтавых калодзежаў, 70% не адпавядалі дапушчальным патрабаванням да якасці па бактэрыялагічных або хімічных паказчыках.

Усіх у раёне ёсць 248 водаправодаў, якія жывяцца ад 333 артсвідравін, каля 7500 шахтавых калодзежаў.

На сённяшні дзень 25 артсвідравін прыйшлі у нягоднасць і не эксплуатуюцца, у 8–і няспраўнае водапад'ёмнае абсталяванне, 11 належаць да тэрміновага перасвідравання, 54 артсвідравіны, якія знаходзяцца на балансе сельскіх Саветаў, адпрацавалі амартызацыйны тэрмін і ў любы час могуць быць спыненыя. Практычна па ўсіх воданапорных вежах адсутнічае ўстройства для аўтаматычнага рэгулявання ўзроўню запаўнення рэзервуараў вежаў, што часта прыводзіць да невытворчага расходавання артэзіянскай вады і перарасходу электраэнергіі.

У праекце рашэння намечаны шэраг мерапрыемстваў, каб выправіць сітуацыю. Для гэтага неабходна адшукаць нямала грашовых сродкаў, аднак, калі гэта не зрабіць сёння, заўтра іх спатрэбіцца яшчэ больш.

***Міхаіл ГРАБОЎСКІ,***
***намеснік***
***галоўнага ўрача***
***Маладзечанскага РЦГіЭ.***

ВЫБАРЫ

# "Ваяж" чыноўнікаў

ВІЛЕЙКА. Напярэдадні выбараў актывізаваліся паездкі чыноўнікаў з Мінска ў народ.

Першы намеснік старшыні аблвыканкома **Канстанцін Сумар** з намеснікам пракурора вобласці і іншымі адказнымі асобамі наведалі адкрытыя акцыянерныя таварыствы "Будэталь" і шклозавод "Залессе".

***Марына ТАЧЫНСКАЯ.***

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Патэнцыйны вораг – сігналізацыя

МАЛАДЗЕЧНА. 23 лютага, вяртаючыся з дыскатэкі, што праходзіла ў адной з вясковых школ (заведзеная крымінальная справа, таму школу не называем), на чыгуначны прыпынак, група будучых абаронцаў айчыны вырашыла прадэманстраваць прадстаўніцам слабага полу сваю маладзецкую ўдаласць, прыняўшы за патэнцыяльнага ворага агні святла–гукавой сігналізацыі аўтагужавога пераезда, што "варожа" міргалі. Астатні вайсковы запал выліўся на будынак прыпыначнага пункта, з якога была сарваная шыльда з назвай прыпынку. Выпадак з'яўляецца яркім прыкладам адносінаў не лепшых прадстаўнікоў маладога пакалення да людзей і маёмасці вакол сябе.

Нягледзячы на прафілактычную работу, павялічылася, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, колькасць падлеткаў–правапарушальнікаў, якія былі дастаўленыя ў ІСН Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце (АУСТ). Па–ранейшым выклікае трывогу вялікая колькасць фактаў выяўлення непаўналетніх у стане алкагольнага ап'янення.

СМАРГОНЬ. Асабліваe месца займаюць правапарушэнні, якія ствараюць пагрозу бяспечнаму руху цягнікоў, парушаюць нармальны рэжым работы чыгункі, прычыняюць значны ўрон.

30 студзеня два вучні адной са Смаргонскіх школ месцам для гульняў выбралі палатно чыгункі станцыі Смаргонь. Дапытлівы дзіцячы розум не мог пакінуць без увагі ліхтары чыгуначных святлафораў, якія весела падміргвалі рознакаляровымі агнямі. Вынік: урон, прычынены іх цікаўнасцю, склаў 24 мільёны рублёў.

З 1 па 10 красавіка будзе праводзіцца агульнадарожная аперацыя "Праталіна" з мэтай папярэджання правапарушэнняў, якія пагражаюць бяспечнаму руху цягнікоў, папярэджання няшчасных выпадкаў сярод непаўналетніх, своечасовага выяўлення і выдалення з аб'ектаў чыгуначнага транспарту безнаглядных дзяцей і падлеткаў–правапарушальнікаў.

Кіраўніцтва Маладзечанскага АУСТ звярнулася да ўсіх зацікаўленых асоб з просьбай не пакідаць без увагі праблему. Толькі сумеснымі намаганнямі сям'і, школы, міліцыі і іншых арганізацый удасца палепшыць сітуацыю, звязаную з падлеткавымі правапарушэннямі.

***Вадзім КУЛЯШЭЎСКІ,***
***інспектар ІСН***
***Маладзечанскага АУСТ.***

# Палачане крадуць

МАЛАДЗЕЧНА. Амаль аднначасова два жыхары Полацка ўчынілі крадзяжы. Супрацоўнікі міліцыі на транспарце затрымалі злачынцаў.

У прыгарадным цягніку Полацк–Маладзечна 27–гадовы газаэлектразваршчык на тэрыторыі Вілейскага раёна сцягнуў у вяскоўца сумку з асабістымі рэчамі. У цягніку накірунку Мінск–Полацк у жыхаркі Мядзельшчыны беспрацоўны выкраў партаманет з грашыма і дакументамі.

***Аддзел інфармацыі.***

ВЕРСІІ

# У пошуку скарбаў Радзівілаў

***Гісторыя гэтая пачалася ў час вайны 1812 года. Уладальнік Нясвіжскага замка князь Дамінік Радзівіл з палком улан перайшоў на бок Напалеона. І нават пабываў з ім у Маскве. Калі ж французы пачалі адступленне, князь заехаў у Нясвіж і аддаў загад каменданту замка адправіць услед за сабой (на Варшаву) фамільныя каштоўнасці.***



*Ігар Кіцікаў у войску.*

Адам (так звалі каменданта) не змог выканаць загад, бо амаль назаўтра горад захапілі рускія войскі адмірала П. Чычагава. Тым не менш, найбольш каштоўнае камендант схаваў. Сярод іншага – 12 апосталаў у рост чалавека з золата і серабра, усыпаныя каштоўнымі камянямі (іх прывез з крыжовага пахода Сігізмунд Карл Радзівіл, які быў рыцарам Мальтыйскага ордэна). Усяго – каля 60 пудоў, з запіскай пра што і паслаў Адам ганца услед свайму гаспадару. Адначасова ён забіў двух дваровых слуг, якія дапамагалі яму хаваць каштоўнасці.

Раз'езд казакоў перахапіў ганца. Каменданта ўзялі пад варту, але на допытах пра месца знаходжання тайніка ён маўчаў. Тады палявы суд ад рускага корпуса генерала Ламберта прыгаварыў яго да смяротнай кары. Адама расстралялі каля замкавай вежы і тым самым абарвалі апошнюю нітачку, што звязвала людзей са скарбам. Засталася толькі запіска, якая захоўваецца ў Беларускім Дзяржаўным музеі.

Усё гэта мне расказала нясвіжскі краязнаўца К. Шышыгіна, аўтар кнігі "Музы Нясвіжа", падчас маёй службы ў Нясвіжы ў войску. Вокны казармы выходзілі проста на замак, таму я часта думаў пра лёс скарбу. Час ад часу мы (салдаты) прымалі ўдзел у расчыстцы парку. На адным з такіх мерапрыемстваў я пазнаёміўся з абходчыкам, які працаваў тут. Ён расказаў, што і яго дзед, і яго бацька, і ўсе яго знаёмыя, і ён сам, калі былі маладыя, шукалі гэты скарб; бывалі часы, калі парк быў увесь перакапаны. Але знайсці нічога не давялося, бо, хутчэй за ўсё, скарб схаваны ў адным з падземных хадоў. А іх, па легендах, было аж тры: да Фарнага касцёла, да парку Альба, да Мірскага замка. Калі даўжыня першага і другога некалькі сотняў метраў, дык трэцяга – каля 20 кіламетраў.

У 1989 годзе парк, у якім стаіць замак, пачалі рэстаўраваць (чысцілі каналы, рамантавалі масты). У час гэтых работ у нейкую падземную пустоту праваліліся два школьнікі; каб іх дастаць, з Мінска выклікалі спелеолагаў. Пасля гэтага выпадку аб'явіўся нейкі кааператыў "Пошук", які запрасіў дазвол на пошук падземных хадоў з дапамогай радара, устаноўленага на самалёце. Але блізкасць да вайсковай часці парушыла планы скарбашукальнікаў, дазволу не далі.



*Можа, у падзямеллях гэтага кляштара захоўваецца той самы скарб?*

ФОТА З АРХІВА ІГАРА КІЦІКАВА.

Давялося і мне браць удзел у пошуках. Сумясціў прыемнае з карысным, калі вучыў салдат узвода, дзе быў намеснікам камандзіра, капаць акопы на вялікім узгорку, на якім калісьці стаяў кляштар "Святога крыжа" (па адной з версій, скарб маглі схаваць у падзямеллі нейкага кляштара). Але замест золата мы знайшлі некалькі чарапоў і фрагментаў шкілета.

Як высветлілася, пад гэтым узгоркам у Другую Сусветную вайну немцы расстралялі некалькі чалавек. Дарэчы, што тычыцца немцаў, дык у час апошняй вайны спецыяльная "зондэркаманда" пад асабістым кантролем Альфрэда Розенберга займалася пошукамі Нясвіжскага скарбу. Безвынікова.

Гэта толькі адна з таямніц, з якой я сутыкнуўся за два гады службы у адным з прыгажэйшых гарадоў Беларусі.

***Ігар КІЦІКАЎ, Вілейка.***


© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



ЗАТ "Другі трубны завод "РАМАС"
ПРАДАЕ
ВОДАГАЗАПРАВОДНУЮ ТРУБУ
Ду 32х2,8–4, Ду 25х2,8–3,2 даст. 3262–75,
ПРОФІЛЬ карытны, ТРУБУ ПРАМАВУГОЛЬНУЮ
(профіль) 30х40 і 25х30.
Вырабляем цяпліцы
ТЭЛ. У МАЛАДЗЕЧНЕ 50974

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка



**Па гарызанталях:** 1. Беларускі гросмайстар, чатырохразовы чэмпіён свету па шашках. 4. Аб'яднанне некалькіх епархій у праваслаўнай царкве. 8. Вузкае доўгае памяшканне, адасобленае радам калон ці слупоў. 10. Футбольны клуб Расіі, які ўвайшоў у паўфінал кубка кубкаў Еўропы 1998 г. 11. Раённы цэнтр Мінскай вобласці. 12. Герой Савецкага Саюза, удзельніца аперацыі па знішчэнні гаўляйтэра Кубэ. 14. Баявы карабель. 16. Становішча ў боксе. 18. Возера ў Расіі і Кітаі. 20. Самая доўгая рака ў Францыі. 21. Беларуская спявачка. 23. Сталіца еўрапейскай краіны. 24. Вялікі Кіеўскі князь X ст., які заключыў мір з Візантыяй. 25. Амерыканскі страус. 28. Спаборніцтва двух бакоў. 31. Дзяржава на Аравійскім паўвостраве. 33. Насякомае, якое водзіцца ў жыллі чалавека. 35. Апарат, у якім для адпампоўвання газаў або вадкасцяў выкарыстоўваецца кінетычная энергія іншых газаў ці вадкасцяў. 36. Саматканая спадніца. 39. Вёска Вілейскага раёна, імем якой названая адна з вуліц Мінска. 40. Круглы круцяшчыйся стол карусельнага станка. 41. Зямельная мера ў некаторых краінах, роўная 4047 квадратных метраў. 42. Вядомы кампазітар, аўтар песні «Дзень перамогі». 43. Папярэдняя публікацыя тэксту артыкула ці даклада малым тыражом сродкамі аператыўнай паліграфіі.

**Па вертыкалях:** 1. Род траў сямейства губакветных, тое самае, што і скочка, дэкаратыўныя. 2. Лёгкая, на двух колах, павозка. 3. Аднародная сумесь пераменнага складу некалькіх кампанентаў. 5. Некалькі суднаў, што ідуць адно за адным. 6. Вясновая з'ява прыроды. 7. Конусападобныя пароды каля шахтаў. 8. Прыпынак на чыгуначным перагоне Маладзечна-Круляўшчызна. 9. Навостраны бок ляза, скошаны край розных вырабаў. 13. Напітак з рому, закіпячонага з цукрам, вадой і фруктовымі прыправамі. 15. Горад у Татарстане на рацэ Кама. 17. Старадаўні спосаб марскога бою. 18. Спартыўная камандная гульня. 19. Хімічны элемент, інертны газ. 20. Тэхнічная культура. 22. Прэснаводная рыба. 26. Новае слова або выраз, а таксама новае значэнне старога слова. 27. Рака ў Якуціі, левы прыток Алдана. 29. Лесвіца з рухомымі прыступкамі. 30. Тыповы ўзор, мадэль. 32. Пласцінка з прарэзанымі знакамі, малюнкамі, прызначанамі для ўзнаўлення. 34. Кароткі раменны плецены бізун. 35. Умоўная лінія, якая падзяляе зямны шар на два паўшар'і. 37. Плывучая землечарпальная машина. 38. Знак пункта з вядомай абсалютнай высатой.

*Анатоль РОГАЧ,*
*Вілейка.*

**Адказы на чайнворд "Т", змешчаны ў № 12.**

1. Тамат. 2. Тост. 3. Трактат. 4. Турыст. 5. Тэрапеўт. 6. Трафарэт. 7. Тэрміт. 8. Транзіт. 9. Тэрцэт. 10. Такт. 11. Талант. 12. Транспарант. 13. Тэкст. 14. Торт. 15. Талент. 16. Тэадаліт. 17. Тэнт. 18. Табурэт. 19. Турнікет. 20. Ташкент. 21. Тэрмастат. 22. Тракт. 23. Тэст. 24. Трыялет.

МУЗЫКАНТЫ СУПРАЦЬ СНІДУ

# «СНІДабойкі» рэгіёна

МАЛАДЗЕЧНА, улікова–планавы тэхнікум. Да пачатку канцэрта застаецца 45 хвілін, а натоўп аматараў беларускага року падпірае дзверы. У актавай зале вядуцца апошнія прыгатаванні. Адзін з арганізатараў бегае па зале так, што, калі б нехта выпадкова аказаўся ў яго на дарозе, то і знёс бы.

"СНІДабойка" пачалася, як і многія іншыя падобныя мерапрыемствы, са спазненнем на паўгадзіны. Прысутным прачыталі лекцыю пра шкоду, якую нясе невыкарыстанне прэзерватываў, а далей было тое, дзеля чаго, уласна, усе і прыйшлі, – канцэрт.

Першым выйшаў на сцэну малады гурт KAMERA 16. Бадай, нічога надзвычайнага, акрамя сродкаў першай абароны ад СНІДу, што лёталі па зале, не было.

Далей быў мінскі EXIST, у якога вельмі напружаны апошнім часам графік. Калі музыканты ішлі ад вакзала да ўлікова–планавага тэхнікума, адпачывалі: такіх вуліц для пешаходаў яны не бачылі.

– У верасні вы ўдзельнічалі ў "Рок–немаўляці": пачалі з таго, што падае гітара, рэзка заканчваецца першая песня. Да заканчэння ж вы зрабілі немагчымае – замест рогату народ у захапленні крычаў. Маеце нейкую нікому не вядомую формулу поспеху?

– Мы імкнемся рабіць добрую музыку і працаваць да канца!

– Вы былі ў Маладзечне ўвосень, зімой. Калі лепей?

– Калі нас чакаюць.

BOURKINA FASO. Думаю, што назва гаворыць сама за сябе.

Наступныя – HAPPY FACE.

– Даўно вас не было чуваць у Маладзечне, на сваёй радзіме?

Сыракваш:

– Няма матэрыяльнай базы. Гэты канцэрт–акцыя – даніна павагі. Мы іграем тут, таму што падтрымліваем антыСНІДаўскі рух.

Варта заўважыць, што менавіта дзякуючы намаганням Сыракваша, у HAPPY FACE было лепшае гучанне.

– Цытую словы прадзюсера HF: гурт стаў папулярны у Мінску, у яго з'явіліся паслядоўнікі сярод музыкантаў, якія, паслухаўшы HF, пачалі рабіць нешта падобнае.

– Стаў папулярны не ў Мінску, а ў Беларусі! На фестывалі ў Віцебскім клубе "Сова" мы былі хэдлайнерамі.

– Як ваш дэбютны альбом "GRUNGE?!" сустрэлі фанаты?

– Мяркуючы па продажы, на "ура". "GRUNGE?!" займае 10±5 месца ў краіне па продажы.

– Чым патлумачыць адыход ад англійскай мовы?

– Руская – больш зразумелая. Тыя, хто нас слухаў і каму мы падабаліся, яны будуць і далей слухаць, а ў тых, хто гэтага не рабіў, будзе магчымасць зрабіць гэта.

– На пытанні адказвае прадзюсер, а не каманда.

– Ён – прадзюсер, які займаецца ўсім.

GREENSNAKE – амаль ніхто не сядзеў. Да маMOSH–ы ў сярэдзіне выступлення падышоў "Ксёндз" і ... пачаў дапамагаць спяваць. А тое, што вакаліст GREENSNAKE забіраў сабе мікрафон, не дапамагло. Месца за барабанамі Малька заняў "Шарлота" і грукаў даволі нядрэнна.

– Вы параілі б сваім дзецям заняцца тым, чым займаецеся цяпер? Іграць такую ж па стылі музыку?

Басіст GREENSNAKE:

– Я буду толькі вітаць, калі мой сын будзе іграць. Асабліва, калі зоймецца гэтым сур'ёзна і нават пераўзыдзе бацьку (мяне).

*Таня МІР.*

# У суседзяў

СМАРГОНЬ. Рок–гурты Смаргоні, Маладзечна, Мінска падтрымалі рэспубліканскую акцыю "Моладзь супраць СНІДу" і тут.

Першыя хвіліны падаліся музыкантам сапраўдным катаваннем. Моладзь сустрэла іх насцярожана. Напэўна, арганізатары прадбачылі гэта:

– Адкрыццё канцэрта мы даручылі смаргонскаму "Мёртваму сезону"!

– Устаньце! – адчайна заклікала залу мінская "Анамалія".

Група паказала выдатны Middle Art Metall, а рэакцыя залы была ранейшая, толькі чорны бандан, што матляўся над залай, і віск дзяўчат у апошніх радах паказвалі: зала і слухае, і чуе. Музыка класная – сядзець немагчыма, але ніхто не рашаўся падняцца. Скаванасць залы перадалася "анамальцам":

– Лічыце, лёгка тут тузацца, калі вы седзіце?!

Публіка завялася, заставалася толькі знайсці ў сабе смеласць падняцца з крэслаў. У гэтым дапамог мінскі "Армагедон". Зразумелая і прыемная музыка "Смаргонь–SUPER" не пакінула залу абыякавай – прастора перад сцэнай запоўнілася імгненна. Оперны голас саліста і 14–гадовы хлапчук са скрыпкай зрабілі іх выступленне эфектным і запамінальным.

Калі–нікалі на сцэне з'яўляўся "тамада" канцэрта і нясмела нагадваў аб прызначэнні акцыі:

– СНІД яшчэ называюць чумой XX стагоддзя!

Са словамі: "Жыве Беларусь!" – на сцэну выйшлі "Rum & ice" з Маладзечна. Яны пелі па–беларуску і гэтым паказалі, што прадузятасць перад мовай цалкам дарэмная.

Група маладая і гэты канцэрт важны не столькі як акцыя, а як магчымасць паказаць сябе. Гітарыст Максім вучыцца ў музвучылішчы ў Маладзечне і адначасова ўдзельнічае ў дзвюх групах. Другая група складаецца з вучняў гэтага ж вучылішча, а Сашы з "Rum & ice" самавучкі, але, па яго словах: "... прафесійна граюць".

"Камера 16" – ужо ведае, што капрызлівую публіку нічым, акрамя добрай музыкі і прызнанняў у каханні, не ўтрымаць. На сцэну музыканты выйшлі са словамі: "Смаргонь – наш любімы горад!". Выбух дзявочага віску сустрэў песню "Тытанік".

Пасля канцэрта яны расказалі, што прыезд у Смаргонь не абышоўся без прыгод. Без аніякага ведання горада прыезджыя ("Rum & ice", "Камера 16", іншыя) выйшлі ў цэнтры і рушылі да "Космаса". Там, вядома ж, іх ніхто не чакаў.

Толькі добрая цёця–касір і прынцып "язык да Кіева давядзе" дапамаглі знайсці дарогу. Канцэрт на той час пачаўся ўжо. На шчасце, апаратура ў клубе аказалася добра настроеная, і яны хутка падключыліся, чаго нармальна не адбылося на папярэднім канцэрце.

Найбольш упэўнена трымаліся на сцэне музыканты "Буркіна Фасо". Grand–стыль абавязвае – сапраўдны андэграўнд. На жаль, саліст групы стаўся невялікім аматарам стасункаў з журналістамі:

– Некампетэнтныя нашыя журналісты.

На пытанне, якая група паказала сябе лепш за ўсіх, і музыканты, і гледачы ў адзін голас паўтаралі:

– Мінскія – абедзве.

*Марыя КАЗЛОВА.*






Камера 16.



Greensnake.

ФОТА ГАЛІНЫ ВЫБАРНАВАЙ.

ГАРАСКОП 29 САКАВІКА–4 КРАСАВІКА

**АВЕН (21.03–20.04)**
Кепскія дні 30, 31. Магчымыя змены на рабочым месцы, а фінансы больш не будуць спяваць рамансы.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Важны дзень 3. Будзь падрыхтаваны да ўсялякіх нечаканасцяў. У цябе абвострыцца інтуіцыя.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Добры дзень 31. Дзелавая камандзіроўка пройдзе паспяхова, але абавязкі па месцы работы прынясуць больш карысці для кіраўніцтва і для цябе самога.

**РАК (22.06–23.07)**
Важны дзень 29. Гэты дзень прынясе табе шмат цікавых уражанняў.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Добрыя дні 1–3. Будзеш адстойваць свае погляды. Але зоркі не раяць удзельнічаць у спрэчках, бо яны могуць перарасці у канфлікт.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Кепскі дзень 1. Твае здольнасці могуць не ацаніць як належыць, аднак не прымай гэта блізка да сэрца.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Добрыя дні 31–3, важны 4. Шчасце ў каханні спадарожнічае. Прыйшоў час для прызнанняў, расстаноўкі усіх кропак над "і".

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Кепскія дні 2–4. Не лічы сябе лепшым за ўсіх. Свае думкі абавязкова абмяркоўвай з роднымі.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Паспяхова вырашацца пытанні, якія цябе даўно турбавалі.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Добрыя дні 3, 4. Новыя пачынанні, пераўтварэнні прынясуць табе прыбытак.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добрыя дні 31–3. Лепшы сябра для цябе на гэтым тыдні – асоба з–пад знака Цяльца.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Важны дзень 2. Уважліва стаўся да новых знаёмых – сярод іх могуць быць падманшчыкі.



© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

